

# Дзяньніца
# Dziannica

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ" КРАСАВІК 2000 № 4

**Наш сёньняшні нумар прысьвечаны 10-му юбілейнаму чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу.**

## У НУМАРЫ:

«Чарнобыльскі Шлях» - 2000



Якая яна, Амэрыка? -- інтэрвію зь вядомым навапалацкім сьпеваком і кампазытарам Аленам



Славутыя беларусы Сьвету: Барыс Кіт



Аляксандар Трайдук: Наша мэта - трапіць у «дзесятку»



Прэм"ера рубрыкі «Зоркі навапалацкага футболу». Інтэрвію з галкіпэрам каманды «Нафтан-Дэвон» Віктарам Ігнацьевым і лепшым снайпэрам мінулага сэзону Уладзімірам Шупілавым.



Галоўны трэнер каманды «Нафтан-Дэвон» А. Трайдук.

# «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ» - 2000

У 18.00 на пляцы Якуба Коласа сабралося каля 25 тыс. чалавек. Калёна з традыцыйным чарнобыльскім звонам рушыла праспэктам Скарыны ў бок пл. Бангалор. Аднак, калі калёна пайшла, каля ста пяцідзесяці чалавек, якія заклікалі ісьці на пляц Незалежнасьці, засталіся на пл. Якуба Коласа. Паводле сьведчаньняў удзельнікаў падзеяў, былі затрыманы двое непаўнагадовых: Андрэй Ануфрыеў, (17 год, жыхар г. Горкі. Падчас затрыманьня хлопца зьбілі, забралі сьцяг і фотаапарат. Пасьля затрыманьня Андрэя адпусьцілі) і Аляксандар Атрошчанкаў, якому таксама няма 18 гадоў. У адной машыне з Атрошчанакам везьлі затрыманых Зьміцера Жураўчанку, Андрэя Сацуту (паводле сьведчаньняў Атрошчанкі, па дарозе ў міліцэйскі пастарунак усіх іх зьбівалі). На пляцы быў затрыманы старшыня суполкі КХП з Чашнікаў Андрэй Мычык. Аднак, ня гледзячы на правакацыі, Чарнобыльскі Шлях – 2000 быў мірным. Паводле ацэнак удзельнікаў, колькасьць людзей, што выйшлі на шлях, была 40-50 тысячаў чалавек.

На пляцы Бангалор, куды падыйшла калёна, адбыўся мітынг, падчас якога выступілі Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык, Мікалай Статкевіч, Анатоль Лябедзька, Генадзь Грушавы, Павал Севярынец, Іван Нікітчанка, Людміла Гразнова, чэскія сэнатары Ян Румл і Міхал Жантоўскі, лідэр расейскага Антыфашыстоўскага маладзёвага руху Пётр Казначэеў. Пасьля сканчэньня мітынгу былі затрыманы два мікрааўтобусы з тэхнікай, транспарантамі і людзьмі. Іх пад канвоем даставілі ў Савецкі РАУС, дзе адзін з гэтых мікрааўтобусаў быў адпушчаны. Людзей, якія былі ў гэтым аўтобусе: адказны сакратар Управы БНФ Аляксей Кавалец, кіроўца Ляпарскі, Міpановіч, Тамковіч (усе – актывісты БНФ), некалькі гадзінаў трымалі ў РАУСе, без прад'яўленьня абвінавачаньня. Для высьвятленьня сытуацыі у Савецкі РАУС прыехалі прадстаўнікі кіраўніцтва БНФ, праваабаронцы, прадстаўнік АБСЭ Крыстофэр Паніко. У 23.30 міліцэйскае начальства было вымушанае даць загад вызваліць затрыманых людзей, і адпусціць аўтобус з тэхнікай.










# Якая яна, Амэрыка?

*Вядомы наваполацкі сьпявак і кампазытар Ален цэлых поўгода знаходзіўся ў Злучаных Штатах Амэрыкі, куды яго запрасіла Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква. Сваімі заакіянскімі ўражаньнямі сьпявак падзяліўся з супрацоўніцай "Дзяньніцы" Клёнай Бярзарынай.*

***-Якімі пачуцьцямі поўнілася твая душа, калі ты ступіў на амэрыканскую зямлю?***

— Дамінуючым пачуцьцём было пачуцьцё палёгкі. Наш "Боінг" знаходзіўся ў паветры дзевяць гадзін і я спускаўся па трапу, не адчуваючы пад сабою ног. Зрэшты, Амэрыка ўражвае нават сьмяротна стомленага чалавека. Прынамсі, нью-ёрскі аэрапорт Джона Кенэдзі зьдзівіў сваімі сумерамі і шматлікімі зручнасьцямі для пасажыраў. Але што найбольш уразіла, дык гэта амэрыканскі рытм жыцьця. Там, за акіянам, усё рухаецца ў дзесяць разоў хутчэй, чым у нас. У першыя гадзіны я нават адчуваў з тае нагоды пэўны дыскамфорт, але неўзабаве звыкся з прапанаваным тэмпам і ўжо не зьдзіўляўся той шалёнай хуткасьці, зь якой камфартабэльны аўтобус вёз мяне зь лётнішча да бліжэйшай станцыі сабвэю — нью-ёрскага мэтро.

***— Што табе найбольш спадабалася ў амэрыканскім ладзе жыцьця?***

— Спадабалася тое, што ў Амэрыцы нікому да цябе няма аніякай справы: жыві як хочаш і як можаш, рабі што заўгодна, але пры гэтым не чапай іншых. Жыцьцё там разьвіваецца натуральным чынам, там няма ніякай паказухі і гэта адразу ж кідаецца ў вочы. Мяне, скажу шчыра, увесь час гасьцяваньня ў Амэрыцы не пакідала адна думка: а навошта нам, эўрапейскім жабракам, змагацца з дзядзькам Сэмам? Мы што, маем адпаведны эканамічны ды ваенны патэнцыял? У нас што — вышэйшы ўзровень жыцьця, дэмакратыі ды культуры? Думаю, калі бліжэйшым часам ня будзе зьмененая палітычная парадыгма, Беларусь чакаюць вялікія праблемы.

***— Паслухаць цябе, дык Амэрыка ідэальная краіна...***

— Яна далёка не ідэальная. Аднак, калі я гляджу тое ж Беларускае тэлебачаньне, якое дэманструе рознага кшталту "амэрыканскія жахі", так і хочацца сказаць: не гудзі, на сябе паглядзі. Нам не брахаць трэба на белы сьвет, а вучыцца ў той жа Амэрыкі — як належыць жыць і працаваць.

***— Ну і як жа яны працуюць?***

— Дай Бог нам так працаваць: там на ўліку кожная хвіліна. Ну а праблемы працоўнай дысцыпліны ў ЗША папросту не існуе. Калі ты прыйшоў на працу з добрага бадуна, адміністрацыя прыязна пацісьне табе руку і ўручыць разьліковы лісток.

Я поўгода жыў у Брукліне —




адным з цэнтральных нью-ёрскіх раёнаў — і, уяві сабе, толькі аднойчы бачыў на вуліцы "цёплую" кампанію. Падышоў бліжэй і пачуў польскую гаворку. Як высьветлілася, нашы заходнія суседзі прыехалі ў адведкі да сваіх суродзічаў і, па славянскай завядзёнцы, узялі на поўную губу.

***— Выходзіць, амэрыканцы п'юць адну "Кока-колу"?***

— Якраз гэты напой стопрацэнтныя амэрыканцы і ня п'юць. Яны ўжываюць, у асноўным, натуральныя сокі. А што тычыцца моцных напояў, дык я раю паглядзець які-небудзь штатаўскі фільм і пабачыць — як і колькі п'юць кінагероі. У жыцьці назіраецца тое ж самае.

***— Хачу задаць пытаньне, якога ў Штатах не прынята задаваць...***

— Далей не працягвай — зразумеў, пра што гаворка. Мяне гэтае пытаньне таксама хвалявала і я асьцярожна запытаўся ў аднаго беларуса, які працуе ў будаўнічай фірме: колькі ён атрымлівае? Паводле ягоных словаў, кваліфікаваны рабочы на будоўлі мае ня меней 40 тысяч даляраў у год.

***— А цэны на харчы і тавары — ці параўнальныя яны з нашымі?***

— У першы ж дзень, як прыехаў у Штаты, пайшоў набываць лязо для галеньня. І, што мяне зьдзівіла, пачак "жылету" каштаваў у Нью-Ёрку столькі ж, колькі ў Наваполацку: сем даляраў. А наогул, цэны там на любы густ: ёсьць вельмі дарагія супэрмаркеты, а ёсьць вельмі танныя.

***— Не магу не спытаць і пра хвалёную амэрыканскую дэмакратыю...***

— Там, за акіянам, пануе культ чалавечай асобы. У ЗША ніхто ня мае права абразіць чалавека, альбо груба штурхануць. Ці не таму жыхары Нью-Ёрку ўвесь час адзін перад адным прабачаюцца. Знаходзячыся ў Амэрыцы, давялося назіраць па TV як менскія ўлады, пад час сьвяткаваньня беларусамі свайго нацыянальнага сьвята, цягалі апошніх за валасы і білі па хрыбцінах гумовымі друкамі. Амэрыканцы пры гэтым перасмыквалі плячамі і з дакорам хіталі галовамі. У тым жа Нью-Ёрку апошнім часам была забаронена толькі адна дэманстрацыя — куклукскланаўцаў. Усе астатнія партыі, рухі, рэлігійныя суполкі і проста грамадзяне забясьпечаны правам выказваць свае палітычныя погляды ў самых людных месьцінах гораду.

***— Амэрыканцы ведаюць такую краіну — Беларусь?***

— Ведаюць і, на жаль, ня з самага лепшага боку. Яны падазрона і непрыязна ставяцца да кіраўнікоў і дзяржаваў, якія жывуць па-за законам.

## СЛАВУТЫЯ БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

# БАРЫС КІТ

Пачатковую адукацыю атрымаў на радзіме - у Наваградскай гімназіі. У 1933 г. скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта са ступенню магістра матэматыкі. Унёс уклад у распаўсюджанне прырода-знаўчых ведаў у Беларусі. З 1933 г. Барыс Кіт выкладаў матэматыку ў Беларускай гімназіі ў Вільні, а ў 1939 г. стаў яе дырэктарам. У 1940 г. заняў пасаду акруговага інспектара Баранавіцкай навучальнай акругі, арганізаваў пачатковыя і сярэднія школы ў Баранавіцкім, Слонімскім, Валожынскім і Ваўкавыскім раёнах, аднавіў Беларускую гімназію ў Наваградку. У час гітлераўскай акупацыі, узначальваючы семінарыю і школу ў Паставах і Маладзечне, ён ратаваў беларускую моладзь ад вывазу ў Германію.

Б.Кіт быў актыўным удзельнікам беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі. Ён быў звязаны з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй, Таварыствам беларускай школы, Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой. Сёння імя нашага суайчынніка добра вядома навуковай грамадскасці свету, дзякуючы яго працам па касмічнай праграме ЗША. З сярэдзіны 60-х гадоў Б. Кіт удзельнічаў у падрыхтоўцы першых амерыканскіх касмічных і ракетных сістэм. Як эксперт па астранаўтыцы, ён прымаў удзел у міжнародных з "ездах, перамовах ЗША і СССР аб наладжванні паміж імі супрацоўніцтва ў галіне касмічных даследванняў.

Б. Кіт з'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў па тэарэтычных пытаннях ракетнай тэхнікі і касмічных даследаванняў, першага ў гісторыі навукі падручніка па



ракетнай тэхніцы і ракетным паліве, кнігі «Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі», а таксама артыкулаў па гісторыі навукі і педагогіцы. У 1983 г. ён абараніў дысертацыю па гісторыі матэматыкі і атрымаў дыплом доктара філасофіі Рэгенсбургскага універсітэта. Веды Барыса Кіта прызнаны і высока ацэнены ў свеце. Ён старэйшы сябра Амерыканскага астранаўтычнага таварыства, ганаровы сябра Брытанскага міжпланетнага таварыства, сябра Дырэктарыяту нямецкага Астранаўтычнага Таварыства, сябра камітэта гісторыі Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (Парыж). Яму нададзена годнасць заслужанага прафесара Мэрылендскага універсітэту. Таварыства імя Германа Эберта (ФРГ) узнагародзіла Барыса Кіта залатым медалём за заслугі ў галіне астранаўтыкі. Артыкулы пра Б.Кіта ёсць у многіх аўтарытэтных бібліяграфічных даведніках і энцыклапедыях. Улічваючы ролю Барыса Кіта ў распаўсюджанні навуковых ведаў у Беларусі, яго ўклад у распрацоўку тэарэтычных пытанняў сусветнай астранаўтыкі, развіццё даследванняў па гісторыі навукі, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў абрала прафесара Барыса Кіта сваім ганаровым сябрам і звярнулася да прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі з прапановай абраць яго замежным сябрам Акадэміі навук Беларусі, а таксама запрасіць яго на адзін з бліжэйшых сходаў Акадэміі з дакладам па выбранай ім праблеме. З такой жа прапановай звярнуліся акадэмік Ю. Астроўскі і тады яшчэ прафесар, а зараз член - карэспандэнт НАН А. Майсеёнак. Але для беларускай акадэміі заслугі Барыса Кіта перад навукай падаліся малаватымі.Ён быў толькі абраны ганаровым доктарам навук Гарадзенскага універсітэту.

# ЗОРКІ НАВАПОЛАЦКАГА ФУТБОЛУ

# УЛАДЗІМІР ШУПІЛАЎ

*Футбольны сезон 1999 года ў многім стаў для "Нафтана-Дэвона" годам Уладзіміра Шупілава. Навічок каманды - лёгкі, светлавалосы паўабаронца наваполацкага клуба, з першых гульняў ўразіў і аматараў, і спецыялістаў футбола. Выніковыя галявыя перадачы, вялікі аб'ём працы на полі ад атакі да абароны, дакладныя ўдары па варотах: такі гульнявы почырк Шупілава. Ці трэба здзіўляцца, што ён стаў лепшым нафтанаўскім галеадорам, не пакінуўшы аніякіх шанцаў на гэтую пачэсную ролю іншым канкурэнтам. Зразумела, гэты таленавіты спартовец пасля заканчэння чэмпіянату атрымаў не адну прапанову аб пераходзе ў іншыя каманды. Але да агульнага задавальнення мясцовых аматараў папулярнай гульні Шупілаў застаўся ў Наваполацку.*

*Сёння, у сваёй новай рубрыцы, "ДЗЯНЬНІЦА" друкуе інтэрв'ю з лепшым, на погляд рэдакцыі, футбалістам Наваполацка 1999 года.*

**— Якімі былі твае першыя футбольныя сцяжынкі?**

-У трэцім класе на урок да нас завітаў трэнер Валерый Эдуардавіч Андрушкевіч. Так я трапіў у ДЮСШ. Пасля заканчэння якой- служба ў войску, паралельна гуляў за "Метапол" (Баранавічы) - каманду трэцяй лігі.

Потым "Метапола" не стала і я з'ехаў ў Кобрын, дзе была каманда другой лігі. Там быў заўважаны селекцыянерамі з Салігорску і запрошаны ў мясцовы "Шахцёр".

**— Дэбют у вышэйшай лізе звязаны з камандай гарнякоў?**

-Так, менавіта ў Салігорску была першая гульня на вышэйшым узроўні з "Тарпеда-Кадзіна". Але з Салігорскам звязаны і успаміны аб сур'ёзнай траўме. Потым быў футзал і падарожжа ў складзе каманды зборнай Беларусі на чэмпіянат свету ў Мексіку.

**-Забіваць першыя галы ў чэмпіянаце вышэйшай лігі ты, наколькі нам вядома, пачаў у Слоніме.**

-Так, я гуляў за каманду гэтага горада і першы гол, памятаю, забіў у вароты менскага "Дынама-93".

**-А як трапіў ў Наваполацк?**

-Яшчэ ў гульні першага круга 1998 года, калі прымалі ў



Слоніме "Нафтан", атрымаў запрашэнне. У сакавіку 1999 года, за месяц да пачатку чэмпіянату краіны, прыехаў ў Наваполацк. Пачалася прыцірка да новых партнёраў. Асабліва знайшоў паразуменне з Віталём Тараканавым. Першыя забітыя галы "Белшыне" і БАТЭ дадалі ўпэўненасці ў сваіх сілах.

**— Якое месца на футбольным полі табе больш да спадобы?**

—Цэнтральнага паўабаронцы. Зрэшты, магу выконваць функцыі правага ці левага паўабаронцы. У Кобрыне, да прыкладу, гуляў цэнтральным абаронцам.

**-Тры мячы ты забіў з 11-метровых штрафных удараў.**

Пенальці налаўчыўся прабіваць яшчэ пад час вучобы ў ДЮСШ. Дарэчы, штатнага майстра 11-метровых у "Нафтане" няма. І я гэта падтрымліваю. Лічу, што павінен біць той, хто ў момант прабіцця пенальці ўпэўнены ў сваіх сілах.

**— Узгадай лепшыя гульні сваёй футбольнай кар'еры.**

— У гульнях за "Нафтан" – з камандамі "Тарпеда" Менск, "Ліда", "Лакаматыў-96" і ў Бабруйску.

**—А забіты гол?**

—Трэці гол у сустрэчы з менскім "Тарпеда". За тры перадачы мы прайшлі амаль палову "паляны" і мой пас дакладна выкарыстаў Дзямідчык.

**--Ці заўважаеш пад час гульні гледачоў на стадыёне?**

—Так. Таму мне у хатніх гульнях забіваць лягчэй. Адчуваю падтрымку. Але крыўдна, калі свае прыхільнікі пачынаюць падтрымліваць сапернікаў. Так было ў Наваполацку ў гульні з берасцейскім "Дынама". Тады, на жаль, быў не наш дзень. Сапраўдныя прыхільнікі каманды так рабіць не павінны.

**С.Рымша.**

# ЗОРКІ НАВАПОЛАЦКАГА ФУТБОЛУ

## ВІКТАР ІГНАЦЬЕЎ

*Адным з лепшых у складзе «Нафтана» апошніх гадоў з'яўляецца галкіпер Віктар Ігнацьеў. Напярэдадні юбілейнага 10-га чэмпіяната краіны яму прысьвечана "зорная" старонка нашага выдання.*

**-У гэтым годзе ў цябе, магчыма, адбудзецца юбілейны, соты матч у вышэйшай лізе ...**

-Сто гульняў - гэта не так і шмат. Вось, напрыклад, Шумахер у бундэслізе – больш за 400 матчаў згуляў. Адчуваеш розніцу? Спадзяюся, што ў мяне яшчэ многае наперадзе.

**--Што табе най- больш спадабалася за час выступлення за «Нафтан»?**

-Першы сезон у Наваполацку. Гуляў тады на добрых эмоцыях, ды і каманда давала добры вынік. У тым годзе ў нас быў падбор класных футбалістаў: Алег Конанаў, Сяргей Чарнышоў, Артур Мацьвей- чык... З імі было прыемна працаваць і на трэніроўках, і падчас гульні.

**-Сезон 1999 года быў не самым лепшым ...**

-Але і ў ім была свая карысць. Калі ўсё складваецца добра, дык можаш недзе памыляцца і гэтага не заўважаеш, а ў цяжкіх абставінах усё гэта як на далоні. Зрэшты праз уласныя памылкі чалавек набывае станоўчы досвед.

**-Ты ніколі не марыў гуляць нападаючым ?**

-Спачатку, у камандзе спартыўнай школы, я быў абаронцам. Потым нашу групу разбілі на два склады. У той групе, куды я трапіў, не было галкіпера. Трэнер прапанаваў стаць у вароты самаму высокаму. Вышэй за мяне не было нікога. Думаў, што гэта часова, але праз нейкі час адчуў сябе ў "рамцы" даволі ўпэўнена.

**-Як ты лічаш, ці павінен быць у галкіпераў свой трэнер ?**

-У прынцыпе, галкіперы, якія прайшлі футбольныя універсітэты, ведаюць свае спецыяльныя практыкаванні, ведаюць як весці падрыхтоўку да гульні. Але ёсць і розныя нестандартныя сітуацыі. У нас, на жаль, пакуль няма, як у заходніх прафесійных клубах, адладжанай да драбязы сістэмы, калі кожны ведае свае функцыі



практычна ў любой сітуацыі. Бывае так – вынік ёсць, але ты сабою не задаволены. Ці наадварот. Так і знаходзішся ў пастаяным пошуку.

**-Раней ты выходзіў на поле капітанам каманды. Цяпер – не.**

-Усё так. Лічу, што капітан павінен быць на полі, бліжэй да суддзі, да таварышаў па камандзе. Такога меркавання прытрымліваецца і наш трэнер.

**-Мяркую, новапалачанам будзе цікава даведацца аб эпізодах кубкавай гульні мінулага года ў Рагачове. Галкіпер Віктар Ігнацьеў неўзабаве падтрымаў атакуючыя дзеянні сваёй каманды і забіў гол, які ў многім і вырашыў лёс сустрэчы на карысць "Нафтана".**

-Да заканчэння гульні з той камандай заставаліся лічаныя хвіліны . Мы саступалі з лікам 0:1 і атрымалі права на вуглавы. Вырашыў падключыцца, узгадаўшы тэлеэпізод з матча фіналу лігі чэмпіёнаў з удзелам варатара Шмейхеля. Гэта была кубкавая сустрэча, губляць не было чаго, таму дазволіў сабе такую вольнасць і галавой пераправіў мяч у сетку варот саперніка. У выніку мы атрымалі перамогу ў дадатковы час. У гульні чэмпіяната так бы не рызыкаваў.

**-На бок каго схіляліся сімпатыі падчас мінулагод- няга чэмпіянату свету ў Францыі ?**

-На бок галкіпераў. Узгадваю фінал, дзе сустрэліся Тафарэл, які ўжо быў чэмпіёнам свету, і Бартэз, які марыў стаць ім. Мне больш імпанавала гульня французаў.

**-А хто падабаецца з лепшых футбалістаў свету ?**

-Найбольш, ізноў - такі, цікавяць калегі па амплуа. Падабаецца Шмейхель. Таксама Прюдом, Ван дэр Сар, Клос, Кан. Увогуле, мне імпануе псіхалогія заходніх футбалістаў. Уражвае іх самааддача і самаўпэўне- насць. За лік гэтых якасцяў на іх баку часцей і застаецца перамога.

**-І апошняе пытанне. Якія мячы ты больш любіш ?**

-Ёсць многа розных добрых мячоў. Але найбольш падабаюцца круглыя. Асабліва, калі яны ляцяць дакладна ў рукі (смяецца).

**Інтэрв'ю браў Сяргей Рымша.**

## НАВІНЫ БЕЛАРУСІ

*Міністэрства жыльлёва-камунальнае гаспадаркі плянуе ў 4-7 разоў павялічыць кошты на камунальныя паслугі.*

Міністар жыльлёва-камунальнае гаспадаркі Аляксандар Мількота прапанаваў прэм'еру Ўладзіміру Ярмошыну павялічыць да пачатку ацяпляльнага сэзону кошты на ацяпленьне ў сем разоў, а плату за кватэру – у чатыры разы. Прычым, для жыхароў Менску кватэрную плату плянуецца павялічыць яшчэ больш – у пяць разоў. Нялёгка давядзецца й тым, хто прыватызаваў кватэру. Толькі 20 квадратных мэтраў на чалавека плюс 10 на сям'ю будуць аплочвацца паводле нізкіх тарыфаў, астатняе – паводле сабекошту.

Цікава, што прадстаўнік эканамічнага дэпартамэнту Міністэрства жыльлёва-камунальнае гаспадаркі адмовіўся камэнтаваць гэтую інфармацыю і нават паспрабаваў яе абвергнуць. Чыноўнік быў нагэтулькі запалоханы, што нават адмовіўся назваць свае імя. Ён толькі сказаў, што падвышэньне камунальных коштаў патрэбнае дзеля таго, каб выканаць сёлетні бюджэт.

Аднак беларускае кіраўніцтва заўсёды адвяргала такія прапановы, бо яны супярэчылі папулісцкай эканамічнай канцэпцыі Аляксандра Лукашэнкі.

Цяпер сытуацыя, відаць, зьмянілася. Беларускаму ўраду не хапае грошай, і таму ён шукае іх у жыхароў краіны. Кіраўніцтва Беларусі ў такіх выпадках звычайна ўзгадвае суседнія краіны Балтыі, у якіх дзейнічаюць высокія камунальныя тарыфы й складана жывецца пэнсіянэрам. Але маўчыць пра той факт, што й заробкі ў Беларусі непараўнальныя зь летувіскімі ці латвійскімі.

## "Нафтан-Дэвон" - 2000:

**Галоўны трэнер:**

Аляксандр Трайдук ____ (1962)

**Кіраўнік каманды:**

Анатоль Цыбін ____ (1955)

**Трэнеры:**

Васіль Зайцаў ____ (1964)
Уладзімір Ламака ____ (1966)

**Галкіперы:**

Ігар Патапаў ____ (1966)
Віктар Ігнацьеў ____ (1972)
Аляксей Голубеў ____ (1982)

**Абаронцы:**

Руслан Гнядкоў ____ (1979)
Сяргей Салыга ____ (1973)
Юры Раманоўскі ____ (1975)
Аляксандр Чапкоўскі ____ (1977)
Андрэй Кіпра ____ (1976)
Аляксей Дубіна ____ (1980)

**Паўабаронцы:**

Віталь Тараканаў ____ (1972)
Уладзімір Шупілаў ____ (1975)
Віталь Гамановіч ____ (1974)
Віталь Ціхаміраў ____ (1975)
Алег Сідарэнкаў ____ (1976)
Аляксандр Савельеў ____ (1972)
Ігар Шаламоўскі ____ (1977)
Зміцер Цімафееў ____ (1981)
Раман Стэфанаў ____ (1978)
Сяргей Ткач ____ (1979)

**Нападаючыя:**

Уладзімір Цярэшчанка ____ (1974)
Аляксей Тарасевіч ____ (1976)
Максім Самушчык ____ (1975)
Зміцер Барабаш ____ (1970)
Вячаслаў Богуш ____ (1979)

# ВЫНІКОВАЯ ТАБЛІЦА 9-га НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЧЭМПІЯНАТУ БЕЛАРУСІ ПА ФУТБОЛУ

| № | Каманды | Гульні | Выйгрышы | Ніч'і | Паразы | Мячы | Балы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | БАТЭ Барысаў | 30 | 24 | 5 | 1 | 80 - 22 | 77 |
| 2. | СЛАВІЯ Мазыр | 30 | 20 | 5 | 5 | 74 - 25 | 65 |
| 3. | ФК ГОМЕЛЬ | 30 | 19 | 6 | 5 | 57 - 28 | 63 |
| 4. | ДНЕПР - ТРАНСМАШ Магілёў | 30 | 17 | 9 | 4 | 53 - 27 | 60 |
| 5. | ШАХЦЁР Салігорск | 30 | 18 | 5 | 7 | 58 - 30 | 59 |
| 6. | ДЫНАМА Мінск | 30 | 14 | 9 | 7 | 51 – 30 | 51 |
| 7. | ДЫНАМА Брэст | 30 | 14 | 4 | 12 | 59 - 52 | 46 |
| 8. | БЕЛШЫНА Бабруйск | 30 | 13 | 6 | 11 | 52 - 42 | 45 |
| 9. | НЁМАН – БЕЛКАРД Гродна | 30 | 10 | 7 | 13 | 36 - 43 | 37 |
| 10. | ТАРПЕДА – МАЗ Мінск | 30 | 10 | 5 | 15 | 31 - 47 | 35 |
| 11. | ЛАКАМАТЫЎ – 96 Віцебск | 30 | 9 | 7 | 14 | 40 - 45 | 34 |
| 12. | *НАФТАН – ДЭВОН* Наваполацак | *30* | *8* | *4* | *18* | *39 - 63* | *28* |
| 13. | ФК ЛІДА | 30 | 7 | 4 | 19 | 27 - 64 | 25 |
| 14. | ТАРПЕДА – КАДЗІНА Магілёў | 30 | 6 | 5 | 19 | 30 - 69 | 23 |
| 15. | СЬВІСЛАЧ – ДАХ Асіповічы | 30 | 4 | 4 | 22 | 24 - 74 | 16 |
| 16. | ФК МАЛАДЗЕЧНА | 30 | 2 | 5 | 23 | 21 - 71 | 11 |

# НАША МЭТА - ТРАПІЦЬ У «ДЗЕСЯТКУ».

*Напярэдадні старту наваполацкай футбольнай каманды "Нафтан-Дэвон" у чарговым чэмпіянаце Беларусі па футболу наш карэспандэнт сустрэўся з яе галоўным трэнерам Аляксандрам Трайдуком.*

**-Аляксандр Мікалаевіч, наколькі мне вядома, усе вядучыя футбалісты мінулагодняга складу каманды ў калектыве засталіся...**

-Так, усе асноўныя футбалісты падпісалі кантракты з клубам. З тых, хто пакінуў калектыў, ні адзін не адыгрываў значнай ролі ў гульні каманды.

**-Наступнае пытанне, па сутнасці, традыцыйнае: ці задаволены галоўны трэнер перыядам падрыхтоўкі да чэмпіянату краіны ?**

-Асноўны аб'ём трэніровачнай працы мы выканалі. Добры збор з моцнымі сапернікамі каманда правяла на Украіне, у Адэскай вобласці. Мінус падрыхтоўчага перыяду- фактычны зрыў традыцыйнага зімовага турніру ў Наваполацку. На жаль, таксама з-за дрэннага надвор'я, не згулялі напярэдадні старту першынства дзве кантрольныя гульні з камандамі Лунінца і менскай «Зоркай».



**-Распавядзіце, калі ласка, аб навічках "Нафтана".**

-Гэта вопытны форвард Барабаш, а таксама Самушчык (Асіповічы), Стэфанаў (Смаленск ), Савельеў (ЗЛІН Гомель), Кіпра (Баранавічы). Нападаючы Богуш, якога ведаюць мясцовыя аматары футбола, мінулы год быў у складзе глыбоцкіх "Азярцоў", зараз зноў у нашай камандзе. Вялікія надзеі ўскладаем мы і на Віталя Гамановіча, які мінулы год гуляў у "Белшыне" (Бабруйск).

**-Ці ставіла кіраўніцтва клуба задачу заняць канкрэтнае месца ў чэмпіянаце краіны ?**

-Велізарныя задачы перад намі не ставіліся. Мы рэальна глядзім на рэчы і ў прынцыпе свас магчымасці прагназуем самі. Па-першае, трэба захаваць прапіску ў вышэйшай лізе і, па магчымасці, трапіць ў першую "дзесятку" каманд. І абавязкова, асабліва ў хатніх гульнях, прадэманстраваць выніковы атакуючы футбол. Для нас вельмі істотна, каб гульня "Нафтана" падабалася наваполацкім аматарам футболу.

**Гутарыў Алесь Рымша.**


Інфармацыйнае выданьне
Грамадзкага Аб'яднаньняКультурніцка-Асьветніцкіх
Ініцыятываў "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ".
Распаўсюджваецца на правах рукапісу.
Адрэса для допісаў:211440.Наваполацак-8,п\с № 26

Рэдакцыйная Рада: Вінцэсь Мудроў, Васіль Храмцоў, Уладзімер Куцэвіч, Алесь Рымша.

За дакладнасьць фактаў і лічбаў нясуць адказнасьць аўтары.
Думкі аўтараў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыйнай Рады